**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**№3(615) 19 студзеня 2012 года.** Кошт свабодны.



Аляксандр Самсонаў з нармалёвым уловам на воз. Якімаўцы (Пастаўскі р-н).

*Фота Яўгена Самсонова*

## Докшыцкі раён

# “Пацукі” ў людскім абліччы

■ Чэслаў Якубовіч

**Надоўга аказаўся азмрочаны настрой на наваготнія і калядныя святы ў 64-гадовага пенсіянера з Мінска.**

Ён яшчэ раней выбраў для адпачынку на ўлонні прыроды вёску Жамойск Докшыцкага раёна, дзе купіў дом і дачны ўчастак. Аднак для мінчаніна прыезд на дачу на гэты раз аказаўся вельмі сумным, бо ў хаце пабывалі няпрошаныя госці. І пад вечар сталічны дачнік паехаў у райцэнтр і падаў заяву ў міліцыю аб крадзяжы нават пасцельных прыналежнасцей. Таксама мярзотнікі забралі з сабой усе прыпасы на зіму, зробленыя закаткі. Да гонару супрацоўнікаў праваахоўных органаў, яны спрацавалі прафесійна і аператыўна раскрылі гэта злачынства. Як высветлілася, рабаўнікамі сталі двое мясцовых жыхароў. Адным са злодзеяў стаў 46-гадовы рабочы з вёскі Пруднікі, у якога асістэнтам быў беспрацоўны жыхар вёскі Барсукі, маладзейшы на 10 гадоў. Цяпер у лепшым выпадку па ўзбуджанай крымінальнай справе гэты “дуэт” вясковых злодзеяў могуць чакаць папраўчыя работы тэрмінам да 2-х гадоў альбо арышт на некалькі месяцаў. Але вельмі верагодна, што іх могуць пакараць пазбаўленнем волі нават да 4-х гадоў. Іншая справа, што ў нас у глыбінцы паўсюдна развялося вельмі шмат такіх вось лайдакоў, якія працаваць не любяць, спіліся і апусціліся. Прага зноў апахмяліцца і перакуліць чарговую чарку і штурхае іх красці ўсё, што дрэнна ляжыць. Пакінутыя без нагляду дачы і пустыя вясковыя хаты такім вось чынам “чысцяць” мярзотнікі рэгулярна, і цяжка знайсці на ўсіх іх эфектыўныя меры ўздзеяння.




# Лічба нумара

**153** – столькі краін, па дадзеных беларускага МЗС, цяпер уваходзяць у Сусветную гандлёвую арганізацыю (СГА), куды ўжо далучылася наша суседка Расія. Гэты велізарны міжнародны монстр ахоплівае 97 % сусветнага гандлю. Для нашай краіны істотна і тое, што сёлета да СГА можа далучыцца ў ліку яшчэ чатырох дзяржаў-кандыдатаў таксама і Казахстан. Таму па разліках экспертаў 157 краін-членаў СГА завалодаюць усім светам і будуць мець 99,8 % аб’ёмаў гандлю чалавецтва. На жаль, беларусы ўжо 18 гадоў беспаспяхова спрабуюць інтэгрыравацца ў сусветную сістэму гандлёвых аперацый, што адбіваецца на нашым нізкім жыццёвым узроўні па вельмі высокіх, у параўнанні з суседзямі, цэнах.

Але калі насельніцтва хвалююць пераважна магазінныя кошты, то эканамісты добра разумеюць, чым пагражае для нашай краіны такая вось штучная ізаляцыя, бо з 2005 года Беларусь прыпыніла перамовы аб далучэнні да СГА. Калі мы і надалей будзем такімі абдзеленымі, то ў рамках АЭП набудзем хутка шэраг сур’ёзных праблем. Разумеюць гэта і расіяне, таму Крэмль аб’явіў аб дапамозе беларусам хутчэй далучыцца да сусветнага гандлю. Справа ў тым, што ўступленне Расіі ў СГА азначае адкрытасць яе рынку для запаўнення якаснымі і таннымі імпартнымі таварамі, якія непазбежна прыдуць і для нас.

У рамках СГА па абавязацельствах расіян ў адносінах прыкладна тысячы таварных пазіцый мытныя тарыфы на 7-15 % ніжэй дзеючых у Мытным саюзе РФ, РБ і Казахстана. У выніку для беларускай эканомікі могуць паўстаць сур’ёзныя праблемы па 210 групах тавараў, сярод якіх тэлевізары, іншая бытавая тэхніка, самазвалы, грузавыя аўтамабілі, малако і слівкі, сінтэтычныя ніці, тканіны, фарбы і лакі. Нашых суседзяў расіян чакае сёлета яшчэ больш шырокі асартымент тавараў і паслуг на фоне зніжэння цэн на іх пры тым, што па заробках яны апяряджваюць беларусаў ужо у 3-4 разы. Толькі на мяса птушкі руская дамовіліся на працягу 8 гадоў давесці зніжэнне імпартных пошлін да сусветнага ўзроўню, каб не загубіць свае птушкафабрыкі.

Трэба ведаць, што ў РФ і характар эканомікі змяніўся, там пераважае прыватны сектар, даволі эфектыўны, тэхнічна лепш пераасначшаны і гатовы канкурыраваць з замежнымі фірмамі. Руская разлічваюць павялічыць экспарт сваёй прадукцыі па свеце, што прывядзе да далейшага росту дабрабыту насельніцтва Расіі. Ад членства ў СГА ўжо сёлета найперш на расійскіх прасторах знізяцца цэны на рыбу, садавіну, якасныя віны і віскі, лекі, адзенне, электроніку. Да таго ж чакаецца далейшы прыток капітала і замежных інвестыцый, стварэнне дадатковых рабочых месц, зніжэнне цэн на паслугі той жа мабільнай сувязі. Як ні шкада, але мы аб гэтым можам толькі марыць у рамках калгасна-каманднай эканомікі, якая па-сутнасці засталася планавай, савецкай.

Таму не дзіўна, што летась у Беларусі правалілі амбіцыйны паказчык па прыцягненню амаль 6,5 млрд. долараў замежных інвестыцый і “праславіліся” трохразовай дэвальвацыяй нацыянальнай валюты, вострым валютным крызісам. Гэта ў хакеі ў аматарскім калядным турніры мы можам граміць усіх, а ў фінале тых жа расіян за кошт уключэння ў каманду 9 дзеючых спартсменаў-прафесіяналаў. У эканоміцы такія “прыёмчыкі” не праходзяць, тым больш, што ступень удзелу дзяржавы ў дзейнасці вытворцаў вялізная і гэты фактар непрымальны для многіх сур’ёзных кампаній.

Пакуль жа ў рамках Мытнага саюза і АЭП наша краіна ўжо атрымала ад РФ пералік прыкладна 2,5 тысяч таварных груп, на якія прыйдзецца зняншаць пошліны. Калі на беларускіх заводах і фабрыках не павысяць якасць сваіх тавараў (адпаведна і іх кошты ў бок зняншэння) і іх канкурэнтназдольнасць, не дабʼюцца заходняй эфектыўнасці сваёй дзейнасці, то ў бліжэйшыя некалькі гадоў нас чакае канчатковы занапад. Магчыма, толькі пад ціскам гэтых знешніх фактараў у нас пачнуць сур’ёзныя рынкавыя рэформы. Іншага выйсця проста няма без змянення адносін да прыватнай уласнасці і да зямлі, а ранейшы “беларускі эканамічны цуд” скончыўся. Усім нам прыйдзецца плённа і вынікова працаваць у новых, больш складаных умовах, інакш вострыя валютна-фінансавы і сацыяльны крызіс можа зноў балюча ўдарыць па беларусах.

## Браслаўскі раён

# За граніцу без віз

■ Станіслаў Раманчук

**З нецярпеннем чакаюць большасць жыхароў Браслаўскага раёна адкрыцця ў пачатку лютага спрошчанага рэжыму перасячэння граніцы для жыхароў прыгранічных раёнаў Беларусі і Латвіі.**

Толькі ў азёрным краі пад гэта міждзяржаўнае пагадненне трапілі жыхары 9 сельсаветаў, самога райцэнтра Браслаў і гарпасёлка Відзы. Цяпер сельсаветы склалі і ўзгаднілі спісы жыхароў тэрыторый, хто тут быў зарэгістраваны на працягу года і болей, якія перадаюцца ў латвійскае консульства ў Віцебску. Увогуле многія мясцовыя жыхары змогуць перамяшчацца ў аблегчаным рэжыме і ў суседнюю Літву. Праўда, з літоўцамі такія біюракратычныя ўзгадненні зацягнуліся і пачнуць дзейнічаць пазней. Як растлумачылі жыхарам Браслаўчыны, для атрымання спецыяльнага дазволу на мясцовы прыгранічны рух ім неабходна будзе заплаціць 20 еўра. Падставай для наведвання памежнай тэрыторыі ад Даўгаўпілса да латышскіх райцэнтраў Краславы і Дагды можа быць наяўнасць родных, альбо месц іхняга пахавання, валоданне нерухомасцю, удзел у розных праектах, рэлігійных культах, гаспадарчыя сувязі без права вядзення гаспадарчай дзейнасці і іншыя прычыны. На працягу кожнага паўгода са спецыяльным пропускам можна будзе знаходзіцца на памежнай тэрыторыі ЕС не больш 90 дзён, а далей ехаць углыб Латвіі забаронена. На латышскую тэрыторыю ў аблегчаным парадку змогуць неўзабаве перамяшчацца і жыхары 12 сельсаветаў Мёрскага і Верхнядзвінскага раёнаў. На Пастаўшчыне чакаюць у 9 сельсаветах, у райцэнтры і гарпасёлках Варапаева, Лынтупы, калі з’явіцца такая магчымасць без перашкод наведаць Вільню і іншыя прыгранічныя літоўскія населеныя пункты.

## Пастаўскі раён

# Даўгі на гады наперад

■ Кастусь Александровіч

**Як ні адну краіну кантынента летась Беларусь асабліва моцна зачапілі крызісныя з’явы ў эканоміцы.**

Першымі адчулі сур’ёзныя праблемы бударганізацыі, а ўслед за імі ў Пастаўскім раёне на мяжы поўнага спынення вытворчасці аказаўся завод жалезабетонных вырабаў у гарпасёлку Варапаева. Сітуацыя стала настолькі трывожнай, што невядома пакуль, ці будзе прадпрыемства ў далейшым неяк існаваць. Услед за ім у мінулым годзе “занядужыў” з-за дзяржаўнай цэнавай палітыкі, якая праводзілася, і Пастаўскі малочны завод.

Праўда, пабываўшы тут нядаўна, старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька на сустрэчы з калектывам пастараўся супакоіць работнікаў, высока ацаніў прадукцыю, якая выпускаецца завадчанамі. Якасць малпрадуктаў пад брэндам “Паставы-гарадок”, сапраўды, высокая, але праблем у завода шмат. Мясцовыя гаспадаркі завінавацілі прадпрыемству за быццам пастаўленае малако амаль 28 млрд. рублёў. Асобныя калгасы, калі было няма адкуль выплочваць зарплату, бралі ў завадчан грошы наперад і цяпер павінны аддаваць практычна дарма сыравіну на 3-4 гады наперад. У самога прадпрыемства выпуск прадукцыі па фіксаваных сацыяльных цэнах прынёс летась больш 3 млрд. рублёў страт. Каб не экспартныя пастаўкі казеіну, самім завадчанам прыйшлося б ледзь ці не спыняць вытворчасць. У выніку практычна на цэлы год тут замарозілі зарплату сваім працаўнікам і самі залезлі ў крэдытную кабалу, беручы ў банках патрэбныя сродкі на першачарговыя праблемы.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 19.01.12 | | | | Пятніца 20.01.12 | | | | Субота 21.01.12 | | | | Нядзеля 22.01.12 | | | | Пнд. 23.01.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -6 | -5 | -4 | -1 | -2 | -1 | 0 | -3 | -3 | -2 | -1 | -3 | -3 | -3 | -2 | -4 | -2 | 0 | 0 |
| Ціск | 748 | 744 | 739 | 735 | 735 | 734 | 735 | 737 | 739 | 739 | 739 | 739 | 737 | 734 | 734 | 735 | 736 | 738 | 739 |
| Вільготнасць | 90 | 87 | 92 | 93 | 92 | 95 | 91 | 92 | 93 | 90 | 90 | 87 | 87 | 86 | 91 | 91 | 94 | 93 | 95 |
| Вецер м/сек | Ю 7 | Ю 10 | Ю 10 | Ю-З 6 | Ю-З 5 | Ю 4 | Ю-З 1 | Ю 3 | Ю-З 5 | Ю-З 6 | Ю-З 7 | Ю 7 | Ю 9 | Ю-В | Ю-В 9 | Ю-В 6 | Ю-В 5 | Ю 6 | Ю-В 4 |
| | | 09:21 | 17:18 | | | 09:19 | 17:20 | | | 09:18 | 17:22 | | | 09:17 | 17:24 | | 09:15 | 17:26 | |
| | | 05:46 | 13:21 | | | 06:52 | 14:18 | | | 07:43 | 15:28 | | | 08:22 | 16:45 | | 08:51 | 18:05 | |

## Дзень за днём

**Беларускі ўрад вырашыў устанавіць з красавіка новую базавую велічыню ў памеры 100 тысяч рублёў, з яе звычайна вызначаюць грашовыя прэміі і штрафы. Айчынныя бізнес-саюзы папрасілі Саўмін Беларусі перагледзець гэта рашэнне з-за непад'ёмных для многіх новых ставак арэнднай платы. У краіне выраслі зноў стаўкі акцызаў на алкаголь, піва і тытунёвыя вырабы, што прывядзе да іх падаражання. Сёлета банкі выдзеляць 514 млрд. рублёў жыллёвых крэдытаў, а тэхніка для АПК абыйдзецца ў 2,5 трыльёны "зайчыкаў". Як і ў большасці краін Еўропы, у пачатку года сярод беларусаў не назіралася значных захворванняў на грып і іншыя вірусныя інфекцыі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Міністр фінансаў Вольфганг Шойбле заявіў, што з даўгавым крызісам у зоне еўра ўдасца справіцца да канца года, у ЕС будзе стабільны валютны блок краін.

**Бельгія.** У адказ на спробу Ірана стварыць ядзерную зброю ЕС увёў эмбарга на закуп іранскай нафты, ЗША пацвердзілі, што іх авіяносцы застануцца ў Персідскім заліве.

**Кіпр.** На паўднёвым усходзе ля вострава ў Сяродземным моры геолагі адшукалі вельмі буйное радовішча газу, яго запасы ацэньваюцца вучонымі ў 140-225 млрд. кубаметраў.

**КНДР**. Акрамя забальзамаванага цела правадыра-параноі Кім Чэн Іра ў яго магільным склепе пахавалі стол, браніраваны вагон і машыну, пры ім сотні тысяч памерлі ад голаду.

**Украіна.** На базе існуючай сістэмы аховы правапарадку ўкраінцы задумалі значную рэформу: у іх МУС з'явяцца жандармерыя, гарадская паліцыя і асобны Следчы камітэт.

**Літва.** Урад краіны падпісаў пагадненне з японскім канцэрнам Hitachi аб фінансаванні і будаўніцтве на базе закрытай Ігналінскай новай Вісагінскай АЭС па тэхналогіях Японіі.

**Венесуэла.** Прэзідэнт Уга Чавес выказаў падазрэнне, што да шэрагу незразумелых захворванняў ракам лідараў краін Лацінскай Амерыкі, магчыма, маюць дачыненне ЗША

**Ганконг.** На адной з мясцовых ферм выявілі зноў "птушыны грып", каб не дапусціць яго далейшага распаўсюджвання, улады загадалі неадкладна знішчыць 17 тысяч курэй.

**Польшча.** Акруговы суд горада Новы Сонч на 40 дзён арыштаваў былога намесніка пракурора Маскоўскай вобласці А. Ігнаценку, які знаходзіўся ў міжнародным вышуку.

**Расія.** На радзіме ў Тульскай вобласці ва ўзросце 80 гадоў памёр экс-губернатар, член ЦК КПРФ, былы путчыст В. Старадубцаў, з 8-мі членаў ГКЧП у жывых засталіся трое.

**Аргенціна.** Урачы выявілі ў прэзідэнта краіны Крысціны Кіршнер захворванне рака шчытападобнай залозы, прыйшлося яе прааперыраваць, каб не было новых метастазаў.

**Японія.** У краіне зафіксавалі самы нізкі ўзровень нараджальнасці (1,057 млн. немаўлят) з часоў вайны, аднак 21 млн. японцаў старэй 70 гадоў, 9 млн. жыхароў - старэй 80 гадоў.

**Літва.** Па новаму закону са студзеня ў краіне забаранілі продаж гарэлкі на вынас ноччу, у буйнагабарытнай тары, яе ўжыванне падчас спартыўных і культурных мерапрыемстваў.

**Францыя.** Паліцыя пачала пошук злачынцаў, якія ноччу дзёрзка ўварваліся ў асабняк і абакралі 78-гадовага знакамітага акцёра Жана-Поля Бельмандо і яго былую жонку.

**Антарктыда.** На полюсе холаду ў раёне амерыканскай станцыі Амудсен-Скотт быў зафіксаваны сусветны тэмпературны рэкорд – 12,3 градусы марозу ( звычайна мінус 30).

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пасольства Польшчы ў РБ, як паведаміла яго прэс-служба, яшчэ паўгода будзе працаваць на ранейшым месцы, потым арандуе офіс у бізнес-цэнтры на вуліцы Бядулі.

**Мазыр.** Мясцовы НПЗ праз год плануе спыніць выпуск бензінаў "Нармаль-80" і АІ-92 і перайсці на новым абсталяванні да вытворчасці толькі паліва еўрапейскага ўзору АІ-95.

**Мінск.** Грамадскае аб'яднанне "Белая Русь" , як заявіў яго старшыня А. Радзькоў, пасля пераўтварэння ў партыю стане называцца Беларускай партыяй народнага адзінства.

**Нясвіж.** На працягу месяца злачынцы двойчы абрабавалі мясцовы фарны касцёл, спачатку скралі драўлянае распяцце, потым будматэрыялы коштам амаль 5 млн. рублёў.

**Баранавічы.** Міністэрства абароны паведаміла, што з Расіі прыбыла ў Беларусь першая батарэя зенітна-ракетнага комплекса "Тор-М2" ракет новага пакалення малой далёкасці.

**Пінск.** Генпракуратура РБ пацвердзіла, што дагэтуль невядома месцазнаходжанне былога гендырэктара "Пінскдрэва" Ларана Арыніча, без яго пачаўся суд па справе аб выбуху там.

**Гродна.** Кіраўнік вобласці С. Шапіра заявіў, што ўшчыльняць цэнтр горада не плануецца, сёлета пабудуюць філармонію на 1100 месц і крыты каток, каб разгрузіць Лядовы палац.

**Магілёў.** У абласным цэнтры адкрыўся ўнікальны для РБ "садок" – платны цэнтр з трэнажорамі і кампутарамі абслугоўвання старых, якіх немагчыма пакінуць дома адных.

**Мазыр.** Пасля ліквідацыі тут і ў Пінску рэгіянальных мытняў замест іх засталіся толькі пункты мытнага афармлення, а ў Беларусі дзейнічаюць толькі 9 мытняў, з іх 3 у Мінску.

**Мікашэвічы.** Амаль 600 работнікаў РУВП "Граніт" выйшлі з прафсаюзнай арганізацыі з-за нізкіх заробкаў і слабай работы прафкама, трэць з іх перайшла ў незалежны прафкам.

**Пінск.** Падчас будаўнічых работ у цэнтры горада знайшлі пад зямлёй старажытную вуліцу-камяніцу і яшчэ астанкі дзікіх жывёлін, рэшткі керамікі XVI- XVII стагоддзяў.

**Мінск.** Галоўная газета краіны "СБ. Беларусь сегодня" неспадзявана ў студзені рэзка зменшыла колькасць падпісчыкаў на 50 тысяч, яе абавязваюць выпісваць дзяржслужачых.

**Асіповічы.** Раніцай у светлы час сутак мікрааўтобус, які вёз дзяцей у санаторый пад Бабруйскам, сутыкнуўся з джыпам, яго кіроўца загінуў, а двое дзетак былі паранены.

**Мазыр.** У следчы ізалятар КДБ змясцілі арыштаванага ў момант атрымання буйнога хабару ў сваім кабінеце 57-гадовага генеральнага дырэктара ААТ "Мазырсоль".

**Мінск.** На прайшоўшым тут VIII аматарскім Калядным турніры за зборную Беларусі згулялі адразу 9 прафесійных хакеістаў, удзельнікаў Адкрытага чэмпіянату РБ.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Гарадок.** Пры ўездзе ў райцэнтр на трасе Адэса – Санкт-Пецярбург адкрылася адна з самых сучасных у Беларусі аўтазаправачных станцый з міні-барам і магазінам.

**Наваполацк.** Насельніцтва мікрараёна Баравуха бурнымі пратэстамі дабілася адмены размешчання тут палігона біялагічнай ачысткі забруджаных нафтапрадуктамі грунтоў.

**Глыбокае.** За сродкі абласнога і раённага бюджэту для Кіраўскай СШ-дзіцячы сад (89 навучэнцаў) набылі новы школьны аўтобус коштам 360 млн. рублёў для падвозу дзетак.

**Віцебск.** У родным горадзе знайшоў вечны спакой начальнік Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі Сяргей Пахолкін, які раптоўна памёр на 56-м годзе жыцця.

**Полацк.** На кацельні райкамунгаса пасёлка Фарынава запусцілі катлы, якія працуюць на шчапе, сёлета на мясцовыя віды паліва перавядуць і адну з буйных кацелень горада.

**Верхнядзвінск.** На чыгуначнай станцыі "Бігосава" на граніцы з Латвіяй пагранічнікі сумесна з КДБ і мытняй зноў знайшлі 119 кантрабандных каробак цыгарэт у вугалі.

**Талачын.** Амаль 100 га ёлак з лясных масіваў мясцовага лясгаса сталі сохнуць і могуць загінуць, шмат такіх хворых дрэў выявілі экологі і ў Аршанскім, Багушэўскім лясгасах.

**Лепель.** Рызыкуючы жыццём, 43-гадовы гараджанін выратаваў жыццё 69-гадоваму суседу і вынес яго з палаючай хаты, калі дзед з непатушанай цыгарэтай заснуў на канапе.

**Докшыцы.** З-за анамальна цёплай зімы каля 30 мядзведзяў з Бярэзінскага запаведніка яшчэ не залеглі ў спячку, але рады такой высокай тэмпературы кабаны, казулі і алені.

**Наваполацк.** Дэпартамент фінансавых расследванняў пачаў праверку дзейнасці ксяндза з Расон Вячаслава Барка па арганізацыі пілігрымак у хрысціянскія святыні Еўропы і свету.

**Варапаева.** Пасля пракладкі яшчэ 5 км вулічнага газаправоду, у тым ліку і складанага ўчастка пад чыгуначным пуці, 58 дамоў жыхароў гарпасёлка перавялі на ацяпленне газам.

**Талачын.** З гасцей у бальніцу трапіў 51-гадовы жыхар райцэнтра, яго прырэўнаваў да сваёй жонкі і ледзь не зарэзаў нажом гаспадар дома, цяпер мужчыне пагражае турма.

**Расоны.** Пры новым басейне ФСК "Старт" райцэнтра адкрыўся буфет, установа заключыла дагаворы па аказанню паслуг і з трыма раёнамі Пскоўскай вобласці Расіі.

**Бягомль.** На трасе на Мінск ля вёскі Барсукі Лепельскага раёна трапіў у ДТЗ пры абгоне і загінуў разам з сябрам 22-гадовы жыхар гарпасёлка, яго пазбавілі правоў за ліхацтва.

**Віцебск.** Новым жыхаром мясцовага заапарка стаў сімвал Беларусі – сямімесячны малады прыгажун зубр, які быў набыты ў Магілёўскім заасадзе на ахвяраванні гараджан.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Святар не рэкамендуе беларусам акунацца ў палонку на Вадохрышча



На крыніцы Святога Яна

**■ Анастасія Янушэўская, БелаПАН**

**Протаіярэй, святар мінскага Свята-Духава кафедральнага сабора Сергій Гардун не рэкамендуе акунацца ў палонку на Вадохрышча. Пра гэта ён заявіў 16 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, свята Вадохрышча, якое адзначаецца 19 студзеня, важнае для царквы таму, што з яго бярэ пачатак хрысціянскае хрышчэнне. Яно з'яўляецца тайнай духоўнага ачышчэння і адраджэння і бярэ свой пачатак у падзеі Хрышчэння Гасподняга. Напярэдадні свята вернікі посцяць. Затым яны наведваюць урачыстую службу ў храме, набіраюць асвечаную ваду, якая потым захоўваецца на працягу ўсяго года. Рэкамендуецца таксама спавядацца і прычасціцца.

Як паведаміў Гардун, традыцыя вадохрышчанскіх купанняў да нядаўняга часу была невядомай у Беларусі, яна пачала распаўсюджвацца толькі пасля распаду СССР у 90-х гадах. Святар параўнаў купанне ў палонцы на Вадохрышча з калядным гаданнем і пераапранутымі, што не ўхваляецца царквой. Гардун прывёў вытрымку з настольнай кнігі для святароў адносна купання ў палонцы. "На ўсходзе для багамольцаў гэта бяспечна таму, што там няма такога холаду і такіх маразоў, як у нас. На карысць гэтай падзеі не можа гаварыць і вераванне ў гаючую і ачышчальную сілу вады, асвечанай царквой у самы дзень Хрышчэння Збавіцеля. Таму што купацца зімой — значыць патрабаваць ад Бога цуда ці зусім грэбаваць сваім жыццём і здароўем", — сказаў ён.

У сваю чаргу загадчык кафедры спартыўнай медыцыны Беларускай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі Генадзь Загародны зазначыў, што з медыцынскага пункту гледжання купанне ў палонцы — гэта востры кароткачасовы стрэс, супастаўны са скачком з парашутам, наведваннем крыасаўны або добрай фізічнай нагрузкай. Акунацца ў палонку можна цалкам здароваму чалавеку. Не варта гэтага рабіць людзям з сардэчна-сасудзістымі, хранічнымі інфекцыйнымі захворваннямі, захворваннямі нервовай сістэмы.

Жадаючым акунуцца рэкамендуецца мець пры сабе сланцы і халат з капюшонам, ды і пасля акунання трэба выпіць моцную гарбату. Акунацца варта адзін раз, але поўнасцю, выцірацца не рэкамендуецца.

Шульган падкрэсліў, што катэгарычна супраць акунання ў палонку непаўналетніх.

■ Кастусь Шыталь

# У турыстычным комлексе на Плісе плануюць пабудаваць замак, царкву і паганскае капішча

**Аўтару гэтых радкоў удалося атрымаць рэндэры праекта турыстычна-аздараўленчага комплекса на возеры Пліса.**

Комплекс уражвае сваімі памерамі. Плошча яго – 21 гектар. У ім адначасова могуць адпачываць каля 500 турыстаў.

На беразе возера Пліса будуць узведзеныя спальны, гатэльна-рэстаранны, культурна-забаўляльны і лячэбна-аздараўленчы карпусы.

Таксама плануецца пабудаваць сталоўку, адкрыты басейн, залу для боўлінгу, амфітэатр. Будзе сем катэджаў для багацейшых наведвальнікаў, а таксама чатыры дамы для супрацоўнікаў комплекса.

Побач з гэтымі будынкамі будуць пабудовы, стылізаваныя пад даўніну. Гэта замак, агароджаны валам і драўлянымі сценамі, на тэрыторыі якога размесцяцца княскі палац і царква. Каля замкавых сценаў - паганскае капішча з трыма ідаламі.

На рэндэрах бачна, што гэта будзе не рэканструкцыя сярэднявечнага замка, а фантазія сучасных архітэктараў на гістарычную тэматыку.





Ідэя з капішчам выклікае неадназначныя меркаванні. *"Мне як святару гэтая ідэя не падабаецца. Кепска будзе, калі наведвальнікам будуць паказваць гэтых ідалаў і казаць: зрабі тое або дакраніся да гэтага, каб споўнілася жаданне"*, – каментуе каталіцкі святар Віктар Місевіч.

Будаўніцтвам турыстычнага комплекса займаецца сталічная фірма "Трэстпрамбуд". Скончыць будоўлю плануецца ў 2014 годзе. Кошт будаўніцтва, паводле папярэдніх разлікаў, складзе 135 мільёнаў рублёў. Распрацоўнікі праекта мяркуюць, што на Плісе змогуць адпачываць каля 6.000 чалавек штогод.



**На беразе возера Пліса будуць узведзеныя спальны, гатэльна-рэстаранны, культурна-забаўляльны і лячэбна-аздараўленчы карпусы.**



# Перакуліўся аўтобус, на якім мінскія турысты вярталіся ад Зюзі Паазерскага

■ Кастусь Шыталь

**Недалёка ад Мінска перакуліўся аўтобус, на якім сталічныя турысты вярталіся з экскурсіі ў Паставы. Пацярпелі 19 чалавек.**

Аварыя здарылася вечарам 14 студзеня на дарозе Мінск – Мядзель, каля вёскі Лыскава Мінскага раёна. Аўтобус з'ехаў у кювет і перакуліўся. Медыцынская дапамога спатрэбілася 19 чалавекам, у тым ліку траім дзецям.

Відавочца паведаміў, што аўтобус ехаў на хуткасці каля 80 кіламетраў за гадзіну, і яго занесла на павароце. Нібыта кіроўца спяшаўся вярнуцца ў Мінск, бо неўзабаве павінен быў выехаць у Рыгу.

ДАІ Мінскага раёна расследуе здарэнне.

Аўтобус быў арандаваны адным са сталічных прадпрыемстваў дзеля турыстычнай паездкі. Турысты пaглядзелі горад Паставы і наведалі Зюзі Паазерскага.



**Перакулены аўтобус. Фота з сайта МНС, 112.by**

# Piligrimka.by запрашае ў новыя падарожжы ў 2012 годзе

**Парафія святога Язафата Кунцэвіча ў Расонах запрашае адправіцца ў падарожжа па святых мясцінах Еўропы і Святой Зямлі. У 2012 годзе кожны жадаючы зможа прайсціся шляхам апостала Паўла, папілігрымаваць па слядах свв. Кірыла і Мяфодзія і наведаць марыйныя санктуарыі Еўропы.**

Сёлета пілігрымаў чакаюць наступныя пілігрымкі:

■ падарожжа ў Святую Зямлю — 19–26 красавіка, 17–24 верасня, 17–22 кастрычніка

■ пілігрымка да месца пахавання св. Язафата Кунцэвіча (Рым/Ватыкан) — 23 красавіка–1 мая, 7–15 мая, 3–11 верасня

■ пілігрымка на Мальту «Слядамі апостала Паўла» — 22–31 мая

■ пілігрымка ў Лурд —10–21 чэрвеня

■ пілігрымка да базылікі св. Антонія (Падуя, Італія) — 16–26 ліпеня, 20–30 жніўня

■ пілігрымка па Германіі — 20–28 ліпеня

■ пілігрымка па слядах свв. Кірыла і Мяфодзія — 6–13 жніўня

■ пілігрымка да месца аб'яўлення Маці Божай Фацімскай — 1–16 кастрычніка

■ пілігрымка ў Вільню да Маці Божай Вастрабрамскай — 16–18 лістапада.

Праграмы і іншая падрабязная інфармацыя — на сайце Piligrymka.by.



**Крымінальная справа ўзбуджана ў адносінах да пенсіянера, жыхара Лепельскага раёна, за збыт фальшывых грошай.**

## Пенсіянер з Лепельскага раёна атаварваўся прадуктамі за грошы, надрукаваныя на ксераксе

■ Марына Паўлава

63-гадовы мужчына яшчэ ўлетку знайшоў паўтара дзясятка рваных купюр наміналам у 50 тысяч беларускіх рублёў. Прынёс грошы дахаты і забыўся пра іх. Незадоўга да Новага года пенсіянер выявіў падраныя пяцідзесяцітысячныя банкаўскія квіткі, акуратна склеіў іх. Праўда, параўнаўшы грошы з купюрай аналагічнай добрай якасці з уласнай пенсіі, дзядуля засмуціўся – знойдзеныя грошы былі відавочна не сапраўднымі. Мабыць, таму іх парвалі і выкінулі. Тым не менш, перад святам пенсіянер некалькі разоў атаварыўся прадуктамі і спіртным у аўтакраме, заплаціўшы знойдзенымі фальшыўкамі.

Як высветлілася, купюры, знойдзеныя пенсіянерам, былі выкананы на каляровым ксераксе і не валодалі ніякімі ступенямі абароны наогул. Пенсіянер раскаяўся ў зробленым і пакрыў гандлёвай арганізацыі ўрон. Тым не менш, яго далейшы лёс будзе вырашаць суд.

## У Порплішчы міліцыянты выцягнулі жанчыну з палаючага дома

■ Кастусь Шыталь

**Двое міліцыянтаў выратавалі жанчыну, выцягнуўшы яе з палаючага дома ў вёсцы Порплішчы Докшыцкага раёна.**

Мужны ўчынак здзейснілі супрацоўнікі Докшыцкай ДАІ Георгій Стралкоўскі і Аляксандр Гмыза, паведаміла 10 студзеня інфармацыйная агенцыя БелТА.

Міліцыянты ехалі праз вёску, пабачылі, што гарыць дом, і спыніліся. Гаспадар дома, 70-гадовы інвалід, паведаміў, што ў будынку знаходзіцца яго жонка. Супрацоўнікі міліцыі выбілі акно і вынеслі з задымленага пакоя жанчыну, якая была ў непрытомным стане.

# Няпростае «срэбра» заваявала шаркаўчанка Жанна Шошына на Міжнародным турніры па таэквандо ў Парыжы

Удзел у Чэмпіянаце Еўропы сярод юніёрак, безумоўна, пайшоў на карысць нашай лепшай маладой спартсменцы раёна, вучаніцы 11 класа Шаркоўшчынскай СШ №1 Жанне Шошынай. Гэта яскрава бачна па выніках яе ўдзелу ў Міжнародным турніры па таэквандо, які праходзіў у Францыі ў горадзе Парыж.

На жаль, пабываць на Эйфелевай вежы і прагуляцца па самых цікавых месцах Парыжа ў Жанны не атрымалася, бо ў час паездкі, якая доўжылася двое сутак, на маршрутным аўтобусе да месца спаборніцтваў Жанна захварэла і ўвесь час знаходзілася пад пільнай увагай урача каманды. А ў якім стане знаходзіцца чалавек, які захварэў бранхітам, думаю, ведае кожны з нас.



Узнагароджанне пераможцаў: шаркаўчанка Жанна Шошына злева.

Тое, што зрабіла Жанна, раўназначна подзвігу. Яна катэгарычна адмовілася знімацца са спаборніцтваў і літаральна вырывала адну перамогу за другой у час сваіх паядынкаў. Спачатку ў спартсменкі з Вялікабрытаніі, потым у францужанкі, нарвежкі і іспанкі. На гэтым этапе спаборніцтваў паміж схваткамі было хоць па паўгадзіны часу для передышкі. А вось фінальны бой пачаўся адразу праз 10 хвілін пасля няпростага паядынку з іспанкай, у ім Жанна прыклала максімум намаганняў. Лік 15:3 на яе карысць гаворыць сам за сябе.

У фінале шаркаўчанцы ўжо проста не хапала паветра, усё было як у тумане. Але патрэбна ведаць характар Жанны, усё, што магла — яна зрабіла і трымалася пры гэтым годна. Асабліва ўлічваючы тое, што яна адзіная з усёй каманды нацыянальнай зборнай Беларусі заваявала прызавое месца на гэтым турніры, узышла на сярэбраную прыступку п'едэсталу ў юніёрскай вагавай катэгорыі да 55 кілаграмаў.

Гонар роднага краю наша спартсменка адстаяла. А да Егіпецкага першынства свету засталося тры месяцы. І неабходна зноў змагацца з недахопам часу і сіл для штодзённых трэніровак, ды і з фінансавымі праблемамі таксама. У гэтым плане абяцаў аказаць дапамогу наш старшыня райвыканкама. Будзем спадзявацца, што ў Жанны з'явіцца магчымасць трапіць яшчэ на некалькі міжнародных турніраў, такіх як у Францыі.

Толькі са значным спаборніцкім багажом можна разлічваць на новыя перамогі, іх мы і жадаем нашай цудоўнай шаркоўшчынскай спартсменцы.

*І. ІВАНОЎ,*
*http://www.klich.by/*



*Віншаванкі*

*Уладзіміра Іванавіча Скрабатуна*

**Сардэчна віншуем з Днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, творчага натхнення, сямейнага дабрабыту!**

Няхай жыццё квітнее буйным цветам
І нараджэння дзень прыходзіць зноў і зноў,
А доля няхай дорыць з кожным годам
Здароўе, шчасце і любоў.
Няхай заўсёды Бог аберагае
Ад зла, хваробы і журбы
І ласку шчодра пасылае
Сёння, заўтра і заўжды!

*Калектыў "ВГ"*

*Уладзіміра Іванавіча Скрабатуна*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Пусть годы мчатся чередой,
Здоровье только б не сдавало,
Ведь в жизни этой непростой
Дел предстоит ещё немало.
Живи же, как тебе желаем:
Без огорчений и тревог,
Чтоб только счастье и удача
Переступали твой порог.

*Жонка, дзеці, унучка Настасся*

# У Сенненскім раёне ратавальнікі выцягнулі з-пад лёду рыбака

**У Віцебскай вобласці ратавальнікі выцягнулі з ледзяной вады яшчэ аднаго аматара падлёднай лоўлі, паведамілі ў дзяжурнай частцы МНС Беларусі.**

Трагедыяй магла скончыцца для 65-гадовага пенсіянера з вёскі Турава Сенненскага раёна рыбалка па першым лёдзе. У 15.54 10 студзеня ратавальнікі раённага падраздзялення МНС атрымалі сігнал аб тым, што ў возеры Сянно, за 300 метраў ад берага, тоне чалавек. Таўшчыня лёду на месцы здарэння не перавышала пяці сантыметраў.

Супрацоўнікі пажарнай аварыйна-выратавальнай часткі з дапамогай вяровак і рассоўнай лесвіцы выцягнулі рыбака. Пацярпелы з моцным парееахаладжэннем дастаўлены ў мясцовую бальніцу.

*БелТА*



## У 2011 годзе на вытворчасці загінулі 197 беларусаў

**У 2011 годзе ў Беларусі ў выніку няшчасных выпадкаў на вытворчасці загінулі 197 работнікаў. Гэта на 37 чалавек меней, чым у 2010 годзе.**

Пра гэта сведчаць дадзеныя дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі. Больш за ўсё, 24,9%, загінула ад уздзеяння прадметаў, дэталяў, якія рухаюцца (разлятаюцца, круцяцца).

15,7% загінулых упалі з вышыні, 14,2% загінулі ў выніку падзення (абвалу) канструкцый, будынкаў і збудаванняў, абрынання прадметаў, матэрыялаў, грунту.

Акрамя таго ад паражэння электратокам і ў дарожна-транспартных здарэннях загінулі па 19 чалавек, у выніку пажару — 10 чалавек, выбуху — 8.

Колькасць насельніцтва Беларусі на 1 снежня 2011 года склала 9.466.000 чалавек і ў параўнанні з пачаткам года скарацілася на 15,2 тыс. чалавек.

*Telegraf.by*

# Фартуна была не на іх баку

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Паляванне - адно з улюбёных захапленняў грамадзян, многія паляўнічыя адмыслова бяруць адпачынак у зімовы час, каб заняцца паляваннем першым чынам за пушным зверам. З прыходам студзеня зіма стала набіраць сілу, пайшоў снег, кожны дзень мацнее мароз, для паляўнічых на пушнога звера - гэта як бальзам на сэрца. Скончылася загоннае паляванне на капытных, можна паляваць толькі на кабана з вышкі. Шмат робіцца паляўнічымі для павелічэння пагалоўя дзікіх жывёл, абсталёўваюцца кармушкі, нарыхтоўваецца корм да зімы, засяваюцца цэлыя кармавыя палі, толькі каб у зімовы час жывёлам было лягчэй з кормамі, асабліва маладняку. Але не для ўсіх грамадзян закон пісаны, браканьеры не спяць, для іх сезон палявання - цэлы год. Страляюць усё запар, казуляў, кабаноў, зайцоў, галоўнае - застрэліць, samка гэта ці самец - не важна, хоць асноўная маса дзікіх жывёл ужо чакае нашчадкаў.

Прыродаахоўныя органы сумесна з арандатарамі паляўнічых угоддзяў штодня, практычна кругласутачна, ахоўваюць звяроў, але, на жаль, да кожнага звера персанальнага ахоўніка не прыставіш. Так, 14 студзеня 2012 года ў паляўнічых угоддзях ААТ «Пастаўскі ільнозавод» супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраёнінспекцыі сумесна з арандатарамі паляўнічых угоддзяў выяўлены дзве тушы незаконна здабытых кабаноў, адзін з кабаноў, які загінуў, - самка. Браканьерам у-далося схавацца, але ,спадзяемся, не на доўга, супрацоўнікі Пастаўскага РАУС выявяць прафесіяналізм і вінаватыя ў незаконнай здабычы кабаноў панясуць пакаранне.

А 9 студзеня 2012 года каля 24 гадзін ночы супрацоўнікі Глыбоцкай міжраёнінспекцыі і працаўнікі Глыбоцкага РТС РГГА «БТПР» затрымалі двух маладых жыхароў Глыбоцкага раёна, якія ажыццяўлялі незаконнае, браканьерскае паляванне, з дзвюма стрэльбамі, адна з якіх нават не была зарэгістравана, здабыць браканьеры нічога не паспелі, хоць стралялі па казулі, але ў далейшым фартуна была не на іх баку. Супрацоўнікі міжраёнінспекцыі затрымалі браканьераў, зброю канфіскавалі, а матэрыялы накіравалі ў Глыбоцкі раённы суд. Зараз парушальнікаў чакае суровае пакаранне, адзін з затрыманых з'яўляецца паляўнічым і добра ведае, што парушаў закон, але ўсё адно наўмысна ішоў на гэта.

Супрацоўнікі міжраёнінспекцыі выказваюць велізарную падзяку грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў барацьбе з парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства.

Вы можаце патэлефанаваць на тэлефон «гарачая лінія»: 8-02156-28670 – кругласутачна, маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 347-85-14.

# Зоаабаронцы просяць прыпыніць разгляд законапраекта «Аб абыходжанні з жывеламі»

**Грамадскае аб'яднанне біёлагаў па абароне жывёл «Абаронім жыццё» і грамадскае аб'яднанне абароны жывёл «Заасвет» просяць прыпыніць разгляд законапраекта «Аб абыходжанні з жывёламі».**

Як паведаміла БелаПАН старшыня ГААЖ «Заасвет» Маргарыта Пушкевіч, адпаведная заява накіравана ў Адміністрацыю прэзідэнта, а таксама старшыням пастаянных камісій Палаты прадстаўнікоў.

У прыватнасці, зоаабаронцы просяць адкласці разгляд законапраекта да абрання новага складу Палаты прадстаўнікоў. Яны таксама настойваюць на ўнясенні змяненняў у склад рабочай групы.

У заяве ўтрымліваецца абгрунтаванне просьбы. «Склад працоўнай групы быў вельмі незбалансаваным, пераважна з чыноўнікаў, адсутнічалі многія спецыялісты, якія працуюць з жывёламі (заолагі, кінолагі, эколагі і іншыя), і з прадстаўніцтвам двух (з 17) работнікаў прадпрыемства «Фаўна горада», што займаецца знішчэннем жывёл», — гаворыцца ў звароце. Згоды па ключавых пытаннях паміж прадстаўнікамі міністэрстваў і ведамстваў, з аднаго боку, і прадстаўнікамі грамадскасці, з іншага боку, не было дасягнута.

Як сцвярджаюць зоаабаронцы, да першага чытання ў парламенце (лістапад 2011 года) праект быў падрыхтаваны амаль без уліку меркавання спецыялістаў і грамадскіх аб'яднанняў. Больш за тое, у падрыхтоўцы законапраекта не ўдзельнічалі члены рабочай групы: пасля чэрвеня яна больш не збіралася і пытанні законапраекта не разглядала.

«Шмат у чым былі праігнараваны міжнародныя прынцыпы абароны жывёл і замежны вопыт, ушчэмлены правы грамадзян. Праект пагоршыў вострыя сацыяльныя праблемы ў гэтай сферы, стварыў новыя праблемы, замацаваў прама ці завуалявана жорсткасць да жывёл», — адзначаецца ў заяве.

Паводле меркавання прадстаўнікоў грамадскасці, законапраект у цяперашнім выглядзе «не адпавядае заяўленым прынцыпам і мэтам і не скіраваны на выгаду людзей і жывёл».

Нагадаем, зоаабаронічыя грамадскія арганізацыі неаднаразова звярталіся з крытыкай законапраекта «Аб абыходжанні з жывёламі» ў розныя інстанцыі, аж да прэзідэнта, ліст да якога быў накіраваны ў канцы 2011 года. Аднак, як паведаміла прадстаўнік ГААЖ «Заасвет», адказу на свае звароты яны не атрымалі. Адно з асноўных пярэчанняў супраць прынняцця законапраекта — тое, што ён не прапаноўвае «цывілізаванага шляху» скарачэння колькасці бяздомных жывёл.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

## МНС інфармуе
**на 17.01.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 56;
Гібель людзей – 9, з іх 0 дзіцяці;
Урон – 216,5 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 4;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон – 17 300 000 руб.



# У Гарадку злавілі браканьераў

■ **Сяржук Серабро**

**8 студзеня ля аўтадарогі Гарадок-Мяжа работнікамі Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету былі выяўлены чатыры заплечнікі і мяшок з мясам дзіка.**

Браканьера, які схаваўся з месца здарэння, пазней затрымалі ў Гарадку. Ва ўсіх падазраваных асобаў канфіскаваныя чатыры зарэгістраваных паляўнічых стрэльбы. Мяса вагай 180 кг перададзена для экспертызы.

Як паведамляе прэс-служба Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, матэрыялы перададзены ў Гарадоцкі РАУС для разгляду пытання пра ўзбуджэнне крымінальнай справы па частцы 2 артыкулы 282 КК «Незаконнае паляванне».

# У Рэчыцкім раёне лесніка забіла дрэвам

**Няшчасны выпадак здарыўся днём 16 студзеня ў Рэчыцкім раёне. 25-гадовы жыхар райцэнтра, майстар лесу Дуброўскага лясніцтва загінуў у лесе пры спілоўванні дрэва.**

Пра трагічнае здарэнне міліцыі расказаў жыхар пасёлка Зарэчча, які разам з работнікам лясніцтва нарыхтоўваў дровы. Паводле слоў мужчыны, пры спілоўванні дрэва верхавіна яго аддзялілася і пры падзенні ўдарыла маладога чалавека па галаве. Работнік лясніцтва загінуў на месцы. Вядзецца разбор.

*Алена Германовіч, БелаПАН*

# У Беларусі павышаюцца аклады медсёстрам, якія ўдзельнічаюць у ажыццяўленні высокатэхналагічных і складаных медыцынскіх умяшанняў



**У Беларусі павялічваюцца тарыфныя аклады медыцынскім сёстрам, якія ўдзельнічаюць у ажыццяўленні высокатэхналагічных і складаных медыцынскіх умяшанняў. Адпаведны ўказ № 29 «Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў ва ўказ прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 снежня 2005 года № 619» 16 студзеня падпісаў Аляксандр Лукашэнка.**

У прыватнасці, як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, на 160% павялічваюцца тарыфныя аклады медыцынскім сёстрам, якія бяруць удзел у ажыццяўленні высокатэхналагічных медыцынскіх умяшанняў, выкананні анестэзіялагічнай дапамогі, а таксама ў ажыццяўленні інтэнсіўнай тэрапіі пацыентаў пасля высокатэхналагічных медыцынскіх умяшанняў.

Акрамя таго, на 130% павялічваюцца тарыфныя аклады медыцынскім сёстрам, якія бяруць удзел у ажыццяўленні складаных медыцынскіх умяшанняў, выкананні анестэзіялагічнай дапамогі, а таксама ў ажыццяўленні інтэнсіўнай тэрапіі пацыентаў пасля складаных медыцынскіх умяшанняў і ў правядзенні штучнага кровазвароту падчас кардыяхірургічных умяшанняў.

*Аляксей Арэшка, БелаПАН*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

23 – 29 студзеня 2012 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 23 студзеня




**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Доброе утро, Беларусь!
**07.00,08.00**(ссурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.45** Новости.
**07.30, 08.30** Деловая жизнь.
**09.10** В центре внимания.
**10.05 «Маруся»**
**10.55»За все тебя благодарю»**
**12.10** Кримин.комедия **«Проклятие нефритового скорпиона»** (США).
**14.00 Мультфильм.**
**14.10** «Звезды и армия».
**15.10, 19.15** Новости региона.
**15.25** Культурные люди.
**15.55** К тёще на блины.
**16.25** «Клічаў» цыкла «Зямля беларуская».
**16.40** «Залёт».
**16.55 «Маруся»**
**17.45»За все тебя благодарю»**
**18.45, 01.40** Зона Х.
**19.35** Арена.
**19.55** Форум.
**21.00** Панорама.
**21.40, 01.50** День спорта.
**21.50** Командировка.
**22.05 «Безумцы»**
**23.05** Клуб редакторов.
**00.00 «Неоспоримый2»**




**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05**ОНТ представляет: «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Право на защиту».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Ералаш.
**11.25 «Зонтик для новобрачных».**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Хочу знать»
**13.40** «Контрольная закупка».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10 «Обручальное кольцо».** Многосерийн.фильм.
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Понять. Простить».
**17.00** «Большая разница».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «ЛитБел. Буфер для России».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Открытый формат».
**22.05 «Тюдоры».**
**23.10** «На ночь глядя».
**00.05** «След».
**00.45-01.15** Ночные новости.




**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05 «Жаркий лед»**
**10.00** Навіны надвор'я.
**10.30** Школа ремонта.
**11.25** Битва экстрасенсов.
**12.30 «Такси-3»**
**14.10 «Маргоша»**
**16.10** Внеклассный час.
**16.30** Нескучный глобус.
**16.55** Под грифом «Известные».
**17.25** Комедийн.сериал **«Гуманоиды в Королеве»**
**17.55 «Жаркий лед»**
**18.55** Кинопародия **«Мокасины Маниту»**
**20.25** «Хали-гали». Скетч-шоу.
**21.00** Калыханка.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Белорусское времечко.
**22.30** Комедийн. сериал **«Гуманоиды в Королеве»**
**23.00** Овертайм.
**23.30** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**00.25** Сериал **«Маргоша»**




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.10** «Зеленый огурец. Полезная передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40** ПРЕМЬЕРА: **«Семейные драмы».**
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Большой город».
**13.10** «Дальние родственники».
**13.30** «24 часа».
**13.50 «Студенты»**
**14.40** «Кино»: Павел Деревянко и Ирина Рахманова в фильме **«ЕХАЛИ ДВА ШОФЕРА».** Россия, 2001 г.
**16.00** «Горячий лед».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Огонь любви».** Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.35**«Кинопонедельник»: **«БЛОКПОСТ».** Россия, 1999 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Тайны мира с Анной Чапман».



**23.50** «Нокаут-шоу. Международный турнир по боевым единоборствам».




**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:40** Зона «Свабоды»
**8:10 «Таямніца крэпасці шыфраў»**: 10 серыя
**8:55** Прэс-экспрэс
**9:10** «У пошуку ідышу», дак. фільм, рэж. Юрый Хашчавацкі, 2008 г., Беларусь
**10:40** Вагон
**10:50** МакраФон: гурт «Троіца», фільм-канцэрт: ч. 2
**11:20** ПраСвет
**11:45 «Таямніцы Ватыкану»**: 6 серыя
**12:10** Эксперт
**12:40** Зона «Свабоды»
**13:10** «Крама ў Дзукіі, Літва»
**13:40** «Крама ў Парыжы. Усходняя бакалея "У Хэрач'яна"»
**14:15** Прэс-экспрэс
**14:30 «Таямніцы Ватыкану»**: 6 серыя
**14:55** Эксперт
**15:25**«У пошуку ідышу», дак. фільм, рэж. Юрый Хашчавацкі, 2008 г., Беларусь
**17:00 «Мой родны горад»**: 18 серыя
**17:25** Зона «Свабоды»
**18:00** Аб'ектыў
**18:05** Дакументальная гадзіна: «Крама ў Дзукіі, Літва»
**18:35** «Крама ў Парыжы. Усходняя бакалея "У Хэрач'яна"»
**19:05** Моўнік
**19:10** «Лісты з лесу Паўла Севярынца», рэпартаж
**19:30** Аб'ектыў
**19:40** Гарачы каментар
**19:50** Калыханка для самых маленькіх
**20:00** Еўропа сёння
**20:25** Вагон
**20:35** «Тэра постсаветыка. Начная Масква», 2010 г., Польшча
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прыватная калекцыя
**21:55** Фільматэка майстроў: **«Навука сну»**, маст. фільм, рэж. Мішэль Гандры, 2006 г., Францыя
**23:40** Аб'ектыў
**0:05** Гарачы каментар

